УДК 821.161.3-93
ББК 84(4Беи)-44
Г19

Гапееў, В. М.

Г19 Сонечная паляна : казка / Валеры Гапееў; маст. Марыя Міцкевіч.— Мінск : Маст літ., 2013.— 70 с. : іл.

ISBN 978-985-02-1468-3

Жылі-былі на адной вясёлай паляне разам з іншымі звярамі Вожык і Заяц. Добра ім жылося, ды ў адзін дзень хмары засланілі сонца і пачаў ісці дождж, доўгі, бясконцы. Хіба зачырванеюць ягады, вырастуць грыбы? Што рабіць? Па падказцы мудрага Крумкача Вожык і Заяц пайшлі ў лес шукаць іншую паляну.

Маленькія героі перажывуць шмат прыгодаў, адшукаюць многа розных палян, быццам і сонечных… Але ўсё адно яны вернуцца на сваю родную паляну, і стане яна самай сонечнай ва ўсім свеце. Чаму вернуцца Вожык і Заяц і ад чаго сонца заззяе над іх родным домам — у гэтай казцы.

**УДК 821.161.3-93**
**ББК 84(4Беи)-44**

ISBN 978-985-02-1468-3





Валеры Гапееў

# Сонечная паляна

Казка

Мастак **Марыя Міцкевіч**





## 1. Што апавёў Крумкач

Дождж ішоў і ішоў... Ён, падаецца, ішоў заўсёды. Нізкія хмары віселі над самай зямлёй — відаць, яны зачапіліся ў мокрых верхавінах стромкіх елак і ніяк не маглі адарвацца і паляцець.

Гэтая паляна была калісьці светлай і рознакаляровай. А цяпер яна стала ўсюды аднолькава мокрай, шэра-зялёнай.

У дупле вялікага старога пня сядзеў сумны Вожык. Пень быў вялікі, з тоўстымі сценкамі, і ў жытле Вожыка было цяпер суха і ўтульна. Але радасці ў Вожыка не было: дождж ужо ішоў так доўга!

На застылай паляне раптам з'явілася светлая пляма — ну, вядома, Заяц! Ён спыніўся амаль пасярод паляны, разгублена азіраўся па баках.

— Сюды, Заяц! — закрычаў Вожык, выглядваючы з дупла.— Скачы сюды!

Заяц быў мокры і азяблы.



— Вада падступіла зусім блізка да маёй нары, ціхі раўчук стаў сапраўдным возерам, вада находзіць на паляну,— са скрухай апавядаў Заяц.— Заліло нару старой Барсучыхі, сям'я Вепрука таксама пакінула ранейшую хату — яна працякла цалкам, хатку Бабра раўчук зусім размыў...

— Заставайся ў мяне,— прапанаваў Вожык.— Тут досыць месца для абодвух.

— Я ведаў, што ты мяне пусціш, дзякуй,— прамовіў Заяц.— Але што ж далей будзе, Вожык? Дзе мы будзем гуляць, як раней, дзе будуць расці ягады?

— Не ведаю,— сумна адказаў Вожык.— І грыбоў не будзе, і арэхаў...

Раптам згары раздаўся шум — лапаценне і шоргат, і перад уваходам у дупло апынуўся стары Крумкач.

— Заходзьце, дзядуля Крумкач! — запрасіў Вожык.

— Дзякуй, сябры мае,— усцешыўся Крумкач і, цяжка ступаючы, зайшоў у дупло.

— Што будзе, дзядуля Крумкач? — асцярожна пацікавіўся Заяц.— Дождж ідзе і ідзе... Вы лётаеце высока, можа, відаць згары крайчык светлага неба, што набліжаецца да нас?

— Дрэнна,— уздыхнуўшы, прамовіў Крумкач.— Усё неба — адна вялікая хмара.

— Дзядуля Крумкач, няўжо ніколі не скончыцца дождж? Што стане з нашай палянай? — устрывожыўся Заяц.

— Ніяк не можа заквітнець сунічнік,— дадаў Вожык.— Згніе грыбніца — і мы ўсе застанемся без грыбоў. Нават арэхаў зусім мала на галінках...

— Так, мае юныя сябры, справы дрэнныя,— паківаў у скрусе галавой Крумкач.— З года ў год усё меней светлых дзён было над нашай палянай, усё гусцей і часцей ішлі дажджы. Трэба думаць...

— Пра што думаць, дзядуля Крумкач? — здзівіўся Заяц.— Трэба шукаць іншую паляну! Няўжо ў лесе няма палян, дзе свеціць сонца?

— Можа, і ёсць,— задумаўся Крумкач.— Кажуць, быццам ёсць у лесе адна Сонечная паляна. Там шмат ягад і грыбоў, там заўсёды свеціць сонца, і нават дождж там ідзе, весела іскрыцца сваімі кропелькамі ў ягоных промнях... Там жывуць доўга і шчасліва, бесклапотна і мірна...



— Дзе гэтая паляна? — у адзін голас запыталіся Заяц і Вожык.

— Трэба ісці старой сцяжынкаю,— павярнуў дзюбай у бок Крумкач.— Але даўно ніхто не хадзіў ёю, ніхто не ведае — куды

яна выведзе. Вялікі лес утойвае шмат нечаканасцяў, шлях у ім заўсёды цяжкі і складаны...

— Мы знойдзем гэтую паляну! — падхапіўся Заяц.— Мы знойдзем яе... і ўсіх потым прывядзем да яе! Хадзем, Вожык!

— Вядома, хадзем!

— Гэта небяспечна,— перасцярог Крумкач.— Ідзіце, але памятайце: у Вялікім лесе шмат што пабачанае выдае сябе за жаданае, а многае жаданае застаецца непабачаным,— незразумела закончыў Крумкач.— Ідзіце, а я думаць буду...

І Заяц з Вожыкам пайшлі.





## 2. Куды прывяла прамая дарога

Разам з імі ішоў і дождж. Ён халоднымі дробнымі кроплямі падаў і падаў з неба, з навіслых над вандроўнікамі галін.

Ісці сцяжынкаю было напачатку няцяжка. А потым усё часцей пачалі трапляцца паміж светлымі камлямі хвой змрочныя, шэрыя камлі елак. Іх ніжнія лапы, з сухімі ўнізе галінкамі і іголкамі, апускаліся над сцяжынкай і заступалі шлях, балюча калоліся. А сама сцяжынка стала ледзь прыкметнай у густой траве. Лес вакол падаваўся панурым і чужым — толькі чорныя камлі елак ды сухія старыя дрэвы.

Да гэтага часу Заяц і Вожык вельмі стаміліся, яны змакрэлі наскрозь, і так хацелася вярнуцца назад — у тое самае дупло. Там цяпер суха і ўтульна... Раптам заўтра скончыцца дождж? Гэтай паляны, пра якую казаў стары Крумкач, нідзе і блізка не відаць...

І тут сцяжынка ўткнулася ў велізарную старую яліну. Яна была такая старая, што шэры мох звісаў з ейных ніжніх галін лахманамі. Пад ялінаю нічога не расло — толькі мох, такі ж шэры, ляжаў глыбокім дыванам. Не змаўляючыся, Заяц і Вожык упалі ў гэты глыбокі мох.

— Добра, што нам такая яліна трапілася,— казаў Заяц.— Цяпер мы адпачнем...

— А куды сцяжынка падзелася? — Пакруціў галавой Вожык.— Быццам яе гэтая старая яліна праглынула...Трэба ісці.

— А куды ісці, калі сцяжынка скончылася?

— Трэба абысці яліну, і мы пабачым сцяжынку,— уголас падумаў Вожык.— Хадзем...



Так і атрымалася — не абышлі яны і чвэрці велізарнага камля, як пабачылі роўную і прамую сцяжынку, што бегла ў глыб лесу.

— Вось! Выдатна! Гэтая сцяжынка сапраўды вядзе да Сонечнай паляны! Ёю шмат усіх прайшло, вось яна і прамая, і роўная,— упэўнена сказаў Заяц.

— Яна нейкая вельмі прамая,— заўважыў Вожык.— Сапраўдныя сцяжынкі ў лесе не бываюць такімі прамымі.

— Якая ж не сапраўдная, калі яна проста перад намі! — засмяяўся Заяц.— Глядзі, як добра ёю ісці! А вось там, наперадзе, глядзі — ужо святлей! Там — Сонечная паляна!

— Не падабаецца мне,— бурчэў Вожык, калі яны пайшлі роўнаю сцяжынкаю.

Ісці было лёгка, і лапы елак тут не віселі так нізка. Але галоўнае — дождж! Ён амаль перастаў!

Заяц весела скакаў, то ідучы побач, то забягаючы наперад.

— Ды хутчэй жа ты, калючы,— падганяў ён Вожыка.— Глядзі, глядзі,— там ужо амаль зусім светла, там наперадзе — Сонечная паляна!

І раптам сцяжынка пад ім проста правалілася!

Заяц і крыкнуць не паспеў, як апынуўся на дне глыбокай ямы.

— Заяц, ты жывы? — асцярожна зазірнуў у яму Вожык.— Я казаў, што сцяжынка падазрона роўная... Ты не моцна выцяўся?

— Ды нібыта не моцна, — абтросся Заяц.

— Тады падскоквай і хапайся — я працягну табе лапу.

Вожык, наколькі можна было, нахіліўся долу — Заяц падскочыў і ўхапіўся за ягоную лапу.

— Цягну!

Але, мусіць, нездарма сцяжынка была такой роўнай — ні купіны, ні ямачкі — і вось лапы Вожыка заслізгалі па краі ямы, і ў адно імгненне ён кулём скаціўся проста на Зайца. І яны ўдвух ужо апынуліся на дне...

— Так я і думаў, так я і ведаў,— завохкаў Вожык.— Не бывае сапраўдных прамых сцяжынак у лесе. А тыя, якія не сапраўдныя — заўжды пастка.

— Але павінна ж быць нейкае выйсце! — запратэставаў Заяц.— Цяпер мы пра ўсё падумаем...

— А што тут думаць,— сумна сказаў Вожык.— Неўзабаве сюды прыйдзе...

— Хто прыйдзе? — спалохана прысеў Заяц.

— Прыйдзе той, хто выкапаў гэтую яму і зрабіў на роўнай сцяжынцы пастку,— ціха адказаў Вожык.

У чаканні нечага страшнага і незразумелага, што павінна было немінуча адбыцца, Вожык і Заяц праседзелі некалькі гадзін. Мінула яшчэ трохі часу, і згары пачулася лапаценне крылаў.





— Вой, вой, якая бяда, якая бяда! — засакатаў над ямай голас.

Заяц і Вожык пазналі звонкі голас Сарокі. Яны вельмі ўсцешыліся.

— Вой, патрывайце, патрывайце! — заспяшалася Сарока.— Зараз я паклічу на дапамогу, зараз вам дапамогуць!

— Гэй, Сарока,— гукнуў яе Заяц.— Хто выкапаў гэтую яму ў лесе? Куды вядзе гэтая сцяжынка?

— Яма — зусім не яма, а ахоўны пост нашай паляны,— з гонарам адказала Сарока.

— Тут блізка паляна? Гэта Сонечная паляна?

— Ну, вядома, на нашай Паляне свеціць сонца, шмат усяго, і ўсім усяго стае,— пралапатала Сарока.— Чакайце! — І Сарока паляцела.

— Выдатна! — закрычаў Заяц.— Вожык, неўзабаве мы будзем на Сонечнай паляне!

— Будзем, будзем,— па звычцы бурчэў Вожык.— А навошта трэба было гэтую яму капаць?



— Табе ж патлумачылі — ахоўны пост,— адмахнуўся Заяц.— Калі на паляне шмат усяго — трэба такую паляну ахоўваць... Ці мала хто захоча прыйсці...

— І вельмі слушна! — раздаўся раптам згары бадзёры і вясёлы голас, а потым паказалася галава Янота.— Дабрыдзень, сябры. Трымайце лесвіцу!

У яму спусцілася зручная плеценая лесвічка. Вожык і Заяц хутка ўскараскаліся наверх.

— Хадзем, мы заўсёды радыя новым сябрам! — усміхаўся Янот.

І яны пайшлі — прамой сцяжынкаю.






## 3. Калі ўсім усяго пароўну

Чым далей яны адыходзілі ад той ямiны, тым святлей рабiўся лес, і неба ўздымалася вышэй, а потым і зусім зацурчэла на вандроўнікаў пакуль яшчэ нясмелае сонечнае святло. Тут яны пабачылі высокую сеткаватую агароджу з трывалага дроту, а за ёй — вялікую, не агледзець усю, паляну! Усю залітую сонечным святлом!

— Ура, Сонечная паляна! — падскокваў усцешаны Заяц.— Вожык, мы знайшлі яе!

— А ягады ёсць на вашай паляне? — асцярожна спытаў Вожык у Янота.

— Усё ёсць на нашай паляне! — упэўнена адказаў Янот.— Ягады і грыбы, кветкавы нектар, сакавітая трава, спелыя арэхі. А яшчэ — у кожнага будзе свая хатка!





– Вось выдатна, вось выдатна! — не хаваў радасці Заяц.— Мы падмацуемся крыху, адпачнем, а потым нам трэба ўсіх з нашай мокрай паляны сюды прывесці.

— Паспееце, паспееце ўсіх прывесці,— казаў Янот, адчыняючы вузенькія дзверы ў сеткавай сцяне.

А на паляне было шмат-шмат розных звяроў. І ўсе яны гулялі ў адну гульню — у квач. Вадзілі кожны па чарзе, нават калі ў каго не атрымлівалася некага запляміць, адразу Ваўчок свістаў у свісток, і вадзіць станавіўся іншы. То Медзведзяня, то Барсучаня...

Вакол усёй паляны роўным паўкружжам стаялі хаткі. Усе акуратныя, прыгожыя і ўсе — зусім-зусім аднолькавыя! Яшчэ на хатках былі вялікія лічбы.

— Хаткі ўсе аднолькавыя... — Разгублена паглядзеў па баках Вожык.— Так і паблытаць можна...

— Не паблытаеце,— запэўніў Янот.— У кожнай хаткі свой нумар. А аднолькавыя таму, каб ніхто нікому не зайздросціў.

— Цікава як! — усё захапляўся Заяц.— А дзе мы жыць будзем?

— Вось я вас прывяду, — казаў Янот.— Вось, нумар 7 і 8. На гэтым тыдні вы будзеце жыць тут.

— А... а на наступным? — спытаў Вожык.

— А потым усе памяняюцца з суседзямі,— патлумачыў Янот.— Каб ніхто з тых, хто на паўночным баку, не зайздросціў тым, хто на паўднёвым.



— Вось як усё ў вас прыдумана! — усклікнуў Заяц і заспяшаўся ў сваю хатку.

Вожык таксама зайшоў у хатку пад нумарам 8. У хатцы было адно акенца, ложачак, невялікая тумбачка. Тут на парозе з'явіўся ўзбуджаны Заяц.

— Ну, як табе твая кватэрка? — пацікавіўся ён у Вожыка.

— А якая яна мая? — паціснуў плячыма Вожык.— Нічыя яна.

— Не нічыя, а агульная! — пакрыўдзіўся Заяц.— Гэта ж для справядлівасці зроблена.

— Калі нешта агульнае, значыцца яно і маё,— упарта паўтарыў Вожык.— А якая ж гэта мая хатка, калі мне ў ёй нядоўга жыць?.. Трэба хоць трохі яе ўпрыгожыць, пайду лісця featured рознага збяру...

— І я з табой,— паспяшаўся з ім Заяц.

Яны скіраваліся на край паляны. Там Вожык знайшоў на доле некалькі прыгожых лістоў, звыкла начапіў іх на калючкі.



— Я іх пакладу ля ўвахода — будзе самы сапраўдны дыван,— павесялеў ён ад звыклых клопатаў пра дом.

— А я вось той званок вазьму з сабой,— вырашыў Заяц.— Ён будзе будзіць мяне ранкам...

Тут да іх падбег сур'ёзны Ваўчок з вялікім свістком.

— Гэй, новенькія! Хто дазволіў лісце збіраць? Хто дазволіў кветкі рваць? Чаму вы не гуляеце з усімі ў квач?

— Але мы хочам упрыгожыць нашыя хаткі,— разгубіўся Заяц.

— Не трэба гэтага рабіць, бо ўсе хаткі — агульныя. Ты адзін сарвеш кветку, а другі пабачыць і сарве дзве, а трэці і зусім цэлы букет. А потым не захоча ў іншую хатку пераходзіць, скажа, што яна ў яго прыгожая, а тая — не. Калі ты можаш добра ўпрыгожыць, а іншы не можа, то нельга ўпрыгожваць — усе павінны аднолькава або ўмець, або не ўмець. Няможна ў нас рабіць не так, як усе! Усе гуляюць — і вы гуляйце. Хадземце гуляць, за гадзіну ўсе будзем ягады на вячэру збіраць.

— Як гэта — на вячэру збіраць? — разгубіўся Заяц.

— Мусіць, мы будзем толькі збіраць, але не есці. А есці будзем тады, калі скажуць,— выказаў здагадку Вожык.

— Слушна, калючы,— пацвердзіў Ваўчок.

...Так і мінулі рэшткі дня: з усімі звярамі Вожык і Заяц пагулялі ў квача. Заяц хацеў іншую гульню прапанаваць — у хованкі, але Ваўчок як засвістаў у свой свісток!

— У хованкі гуляць у нас па раскладзе праз два дні.

Потым усе збіралі ягады, арэхі і грыбы. Усё гэта зносілі ў адно месца — на кухню.





Потым вячэралі — усе ў адным вялікім доме, за адным даўжэзным сталом, на якім стаяла шмат аднолькавых талерак, і ягад у кожнай талерцы было пароўну.

Вожык быў журботны — ён усё маўчаў і толькі пра нешта ціха ўздыхаў. Заяц ужо не расхвальваў паляну і правілы на ёй, хоць яму вельмі хацелася сказаць нешта вясёлае свайму сябру.

— Тут жа, праўда, выдатна, так? — асцярожна запытаў ён у Вожыка.— Усім усяго пароўну, так справядліва, ніхто нікога не крыўдзіць... Чакай, гэта ў цябе нумар 8 ці ў мяне?

— Мусіць, так,— незразумела адказваў Вожык.— Ды і якая розніца — там жа ўсё аднолькава. У маёй хатцы, што ў тым старым пні, хай і не так прасторна, затое там я мог пакласці на падлогу яскравае лісце... А на падваконні ў мяне заўсёды жыў светлячок... А на стале стаяў самавар, і гарбату я табе запарваў з брусніцаў, бо табе такая даспадобы, а сабе — верасовую... А цяпер...

— А я любіў, каб у мяне кветкі свежыя стаялі,— стаў успамінаць і Заяц.— Прачнешся, а яны свае галоўкі ўжо да сонейка павярнулі і купаюцца ў першых прамянях!

Тут над усёй палянай раздаўся пранізлівы свіст — ізноў Ваўчок са сваім свістком. І адразу за гэтым свістам запляскалі, зачыняючыся, дзверы хатак. Толькі Вожык і Заяц заставаліся сядзець на прыступках.

— А можа, ужо і ўсюды дождж скончыўся? — з надзеяй спытаў Заяц.

— Заўтра пойдзем,— адказаў Вожык.— Няправільная гэта паляна. Пароўну тут усё... Я вунь які маленькі, а Медзведзяня вялікае — і нам ягад пароўну? Каб усім заўсёды ставала, трэба не пароўну на ўсіх дзяліць, а лішняга не браць. Калі ў цябе свая хатка і ты ў ёй гаспадар, тады добра ў яе сяброў запрашаць...



І калі ты ягады сам для сябе збіраеш, тады можна і для сябра сабраць і яго пачаставаць... Заўтра пойдзем,— рашуча паўтарыў Вожык.

Надышла ноч — уся паляна заціхла, заснула. А можа, і не ўсе спалі ў сваіх хатках. Можа, хтосьці яшчэ, як Заяц і Вожык, узгадваў сваю ранейшую паляну, хай і не такую сонечную, але сваю, са сваёй утульнай і роднай хаткай на ёй...

Потым была раніца — чыстая, амаль радасная. І дзень — сонечны, цёплы. Былі і гульні, збор ягад, полудзень. Толькі Вожык і Заяц зусім не весяліліся. Можа, яно і справядліва, калі ўсё-ўсё пароўну падзеленае, усё агульнае, усё аднолькавае, але ўсё ж трэба для весялосці і шчасця, каб нешта было толькі тваім: вось хоць бы для таго, каб гэта сваё падараваць сябру...





## 4. Уцёкі

Ноч была цёмная-цёмная. Заяц адчыніў акно і напачатку нічога не мог пабачыць. Толькі ледзь святлей за агульную цемру было неба, густа абсыпанае зоркамі. Яны мільгацелі там, высока-высока і здаваліся на фоне незнаёмых верхавін дрэў далёкімі і чужымі...

Заяц пацiху падабраўся да хаткі побач. Вожык ужо чакаў яго ў расчыненым акне.

Прабіраючыся густой травою, амаль нічога не бачачы перад сабой, яны неўзабаве спыніліся каля сеткавай металічнай агароджы, якая слаба мігцела пад святлом зорак.

— Капаць трэба,— прашаптаў Вожык.

Заяц пачаў хутка падкопвацца пад агароджу, імкнучыся як мага меней шумець. Вой, і глыбока давялося капаць! Неўзабаве падкоп быў гатовы, і Заяц апынуўся на тым баку.



— Хутчэй, Вожык! — Заяц працягнуў лапу і дапамог сябру пралезці пад загараддзю.— Куды зараз? — спытаў ён Вожыка.

— Наперад, там мусіць быць тая самая роўная сцяжынка-падманшчыца.

— Ізноў у яму патрапім?! — занепакоіўся Заяц.

— Побач са сцяжынкай пабяжым...

Яшчэ цямней стала ў лесе — раптам зоркі сталі блякнуць, яны свяціліся, нібы праз вату, а потым святло іх наогул знікла. Відаць, неба зацягнулася хмарамі, бо рэдкія дробныя кроплі сталі шамацець у лістоце.

— Дождж пачынаецца,— прашаптаў Заяц, каб хоць нешта сказаць — гэтак жудасна было ў цёмным панурым лесе.

І раптам страшны бляск асвяціў увесь лес мярцвяным белым святлом! Сябры ў страху прыселі, замружыліся, і таго моманту, што яны бачылі, было досыць, каб іх сэрцы сціснуліся



ад жаху: чорныя-чорныя камлі дрэў, велічэзныя страшныя цені, жудасныя сукі, як лапы пачвар,— якім вусцішным стаў цяпер лес!

Дождж на ўсю моц зашамацеў у верхавінах дрэў, цяжкія кроплі падалі на зямлю, на Зайца і Вожыка.

— Пачакай,— спыніўся Вожык.— Цяпер ізноў маланка бліісне, глядзі ў той бок, а я ў другі. Нам трэба тую прамую сцяжынку пабачыць.

Маланка не прымусіла сябе доўга чакаць — бляск, яшчэ страшнейшы за першы, асляпіў сяброў, і хоць яны чакалі яго, мімаволі прыселі ад страху.

— Там сцяжынка, там,— заікаючыся, пралапатаў Заяц.— Страшна як... Баюся маланак.

— Я таксама баюся,— прызнаўся Вожык.— Але нам вяртацца ніяк нельга... Хадзем да сцяжынкі.

Маланкі зазіхацелі адна за другой, пакуль бязгучныя, белыя і бледна-блакітныя. Сябры, нягледзячы на свой страх, трохі падбадзёрыліся — гэтыя грозныя выбліскі пакуль не прычынілі ім шкоды, а вось карысць была — у тыя кароткія сполахі святла яны паспявалі агледзецца хоць трохі.

А дождж ліў на ўсю моц. Вожык і Заяц ішлі з боку той самай прамой сцяжынкі. Трава была густой, калючай і мокрай, яна чаплялася, як жывая, аброшвала ногі. Якой жа доўгай была дарога назад!

І абодвум, і Зайцу, і Вожыку, раптоўна здалося, што ўсё ж тая самая паляна, ад якой яны ўцякаюць — добрая паляна, трэба толькі прызвычаіцца да яе... Цяпер бы яны спалі ў сваіх сухіх хатках пад зорным небам, раніцай бы сонца ўстала над імі...

— Нельга нам спыняцца, нельга,— нібы пра сябе паўтараў Вожык, ужо хістаючыся.— Нельга нам вяртацца, Заяц...

— Я і сам ведаю, што нельга,— выдыхаючы па адным слове ад стомленасці, адказаў Заяц.— Не хачу я... Мы яшчэ знойдзем сапраўдную Сонечную паляну!



— Знойдзем! — амаль бадзёра адказаў Вожык.— Шлях назад заўсёды доўгі, неўзабаве пабачым мы нашу яліну...

І яны пабачылі — у адным асабліва зыркім бляску маланкі яна, велічэзная старая яліна, раптам узвысілася наперадзе над усім лесам. Яшчэ сотня крокаў, яшчэ дзясятак і вось яны — густыя, кудлатыя лапы старой яліны, сухі мох, на які так і не ўпала скрозь густыя галіны ніводная кропля. У гэты сухі мох Вожык і Заяц зваліліся, дарэшты знясіленыя. Адсапліся.

Тут, пад дахам з яловых лапак і покрывам са старога моху, было ціха. Шуму дажджу амаль не было чуваць, і маланкі зіхацелі ўжо не так люта.

— Пад гэтай ялінай зусім не страшна,— задуменна сказаў Вожык.— Яна нейкая асаблівая...

— І мне нікольки не вусцішна, нават у такую жудасную навальніцу,— прызнаўся Заяц.





Мякка шумеў дождж, ціхенька парыпвала яліна, ледзь гайдаліся дзесьці ў вышыні ейныя галіны: сюды-туды, сюды-туды... Вожык услухоўваўся ў шум галін і яму здавалася, што яны пагойдваюцца і шумяць не проста так, а як быццам пад мелодыю. І гэтую мелодыю Вожык дакладна калісьці ведаў! Ён нават паспрабаваў яе ўспомніць, але не змог. Ён паціху крануў Зайца:

— Ты не спіш?

— Не... — адказаў Заяц.— Я яліну слухаю.

— І ты чуеш? — усцешыўся Вожык.— Мне падаецца, я ведаю гэтую мелодыю, вось толькі ўзгадаць ніяк не магу...

— І я не магу,— прызнаўся Заяц.— І не трэба ўспамінаць — пад яе так добра засынаць — гэта важней...

Сябры і не заўважылі, як сон змарыў іх.







## 5. Ягады няверы

Раніца была змрочнай і халоднай, і ніяк не хацелася вылазіць з цёплага сухога моху. Дажджу амаль не было, толькі вісеў у паветры вадзяны пыл, ды ранішні вецер здзіраў з галінак дрэў вялікія кроплі, і тыя гучна пляскаліся на мокрую зямлю.

— Куды мы зараз пойдзем? — запытаў Заяц, калі яны прачнуліся і сядзелі, узіраючыся ў глыб лесу.

— Мы пайшлі шукаць з табой паляну,— адказаў Вожык.— Такую сонечную, каб усім было на ёй добра. Бачыш, дождж ніяк не канчаецца... Пойдзем, далей абыдзем нашую Яліну — там павінна працягвацца нашая сцяжынка. Тая, якая прывяла нас сюды.

Так і атрымалася — абышоўшы трохі вакол камля Яліны, сябры пабачылі яшчэ адну сцяжынку.

Гэтая сцяжынка была падобная да самай звычайнай сцяжынкі ў лесе: віхляла між дрэвамі, аббягала кусты, месцамі

здзірванелая, дзе і перагароджаная старым дрэвам, што зва лілася падчас моцнай буры…

Не прайшлі Заяц з Вожыкам і колькі дзясяткаў крокаў, я ля самай сцяжынкі пабачылі кусцік суніц!

— Ягады!

Тут яны ўспомнілі, што вельмі хочуць есці. Ягады на кусцік былі ўсе такія спелыя, усе адна ў адну, усе пяць! І проста ве лізарныя!

— А як мы іх дзяліць будзем? — спытаў асцярожна Вожык.— Не дзеліцца пяць напалам…

— Ты з'ядай тры, а я — дзве,— проста адказаў Заяц, ведаю чы, як ягоны сябар любіць суніцы — сапраўдны ласун! — Гэта ж мы толькі адзін кусцік пабачылі, а яшчэ будуць!

І праўда, за некалькі крокаў ізноў ля самай сцяжынкі маленькімі агеньчыкамі гарэлі пунсовыя ягады суніц. Цяпер іх было чатыры.

— Ну вось, гэтыя добра на дваіх дзяліць,— узрадаваўся Заяц.

— Добра то добра, але ўсё адно я атрымліваюся павінен табе,— заўважыў Вожык.

— Тады хадзем далей! Вунь, глядзі, яшчэ наперадзе суніцы!

Там быў кусцік з салодкімі ягадамі. Як весела яны крочылі: нібы не ў далёкі шлях сабраліся сябры, а выйшлі паесці смачных ягад. Лес павесялеў, менш сустракалася ў ім змрочных дрэў. А галоўнае — неба амаль выпагадзілася, ужо не цёмныя хмары віселі над дрэвамі, а светлыя аблокі, і чым далей ішлі сцяжынкаю сябры, тым святлей яны рабіліся. І дождж перастаў!







— Дзіўныя якія ягады,— заўважыў Заяц.— Усе такія аднолькавыя-аднолькавыя… І больш ніводнага кусціка не было, каб там тры альбо пяць ягад было…

— Нічога дзіўнага няма,— прамовіў Вожык, аблізваючыся.— Ці ты так перажываеш, што на адну ягаду я болей з'еў?

— Вось яшчэ,— чмыхнуў Заяц.— Стану я хвалявацца… А ягады ўсё адно дзіўныя, як зробленыя адмыслова.

— Вось, значыцца, нехта добра іх зрабіў,— задаволена ўсміхнуўся Вожык, які больш за ўсё на свеце, мусіць, і любіў ягады…

— Усё таму, што мы за імі добра глядзім! — раптам пачуўся голас з-за кустоў і на сцяжынку выйшла Лісяня.— Дабрыдзень! Вы да нас ідзяце?

— А да вас — гэта туды, дзе ягад такіх шмат-шмат? — запытаўся Вожык.

— Так. Такіх ягад у нас шмат, бо ў нас вялікая і светлая паляна, нам усе зайздросцяць!

— Ура, Заяц, мы дайшлі! — усцешыўся Вожык.— А нам можна там жыць? — пацікавіўся ён у Лісяня.

— Хадзем, я вас правяду. Я тут пачуў, што ў вас праблема адна ёсць…

— Ды якая праблема?! — усміхнуўся Заяц.— Вожык на адну ягаду болей з'еў, мы ніяк не можам кусціка знайсці, каб там было тры альбо пяць ягад.

— Ну, паміж сябрамі ўсё павінна быць пароўну! — цвёрда заўважыла Лісяня, а Вожык адразу нахмурыўся і засоп.— Але

гэта не праблема,— працягвала Лісяня.— Адзін ідзе тым бокам сцяжынкі, другі — гэтым. Так ніводнага кусціка не прапусціш...

— Вось гэта слушна! — узрадаваўся Вожык і першы трохі паглыбіўся ў лес ад правага боку сцяжынкі.

А Заяц узяў лявей. Лісяня некаторы час ішло сцяжынкаю, потым падышло да Вожыка.

— Слухай, калючы, вось я табе што скажу,— ціха загаварыла Лісяня.— Вось ты ж не заўжды бачыў, калі Заяц кусцікі знаходзіў з ягадамі, так?

— Ну так,— прыпыніўся Вожык у роздуме.— А што?

— А тое,— прымружылася Лісяня.— Мог жа ён і знайсці такі кусцік, дзе тры ягады... І з'есці хутка адну ягаду!

Вожык аж спыніўся:



— А навошта?!

— Эх ты, простая твая душа! Заяц мог даўно з табой параўняцца, а ты яму ўсё адно вінен застаешся!

— Ды не хлусіў мне Заяц раней... Ён са мной заўсёды чэсна дзяліўся... — засумняваўся Вожык.

— Добра па-сумленнаму дзяліцца, калі ўсяго шмат,— запэўнівала Лісяня.— А калі бачыш, што, можа, і не хопіць — думаеш, усе сумленныя? Ага, як бы не так... За ўсім глядзець трэба пільна...

— Не любіць Заяц ягады больш за мяне,— усё не мог паверыць Вожык.

— А прычым тут любіць ці не любіць? — ужо шэптам працягвала Лісяня.— Тут важна, што як быццам ты яму павінен застаешся. Вось што дрэнна, згодны?

— Так, даўжнікам быць блага,— змушаны быў пагадзіцца Вожык.

— Вось так, калючы, думай... — крыва ўсміхнулася Лісяня і паспяшалася.— Пайду пагляджу: нешта Зайца не чуваць...

А Заяц сумна пераходзіў ад дрэва да дрэва, зазіраў за кусты — не было больш суніц!

— Што, нічога не знайшоў? — паспачувала Лісяня.

— Ага, зусім нічога. Ніяк не відаць...

— Гэта сапраўды, ягады пабачыць не так і проста. А як яны пад лісточак схаваюцца! Вось Вожыку выгода — у яго нюх добры, ён адразу чуе ягаду. Тут у такой траве густой ды калі ты яшчэ ростам, як Вожык, лёгка можна ягаду-другую з'есці — ніхто і не заўважыць.

— А навошта Вожыку без мяне есці? — здзівіўся Заяц.— Ён жа мой сябар!

— Сябар то сябар, але калі дужа ягады любіш... Вось не аддаў жа ён той лішняй ягады табе, а сам з'еў.

— Ды ніколі мяне раней Вожык не падманваў! — разгарачыўся Заяц.

— А заўжды першы раз бывае,— хітра прымружылася Лісяня і нечакана гучна закрычала: — А вось мы і дайшлі!

І насамрэч — за гутаркамі неяк і не заўважылі, што ўжо на ўсю моц свяціла сонца, беглі сінім небам лёгкія белыя аблокі. А перад сябрамі ляжала такая сонечная, такая цудоўная паляна!

— Вось, калі ласка! — шырока развяло лапы ў бакі Лісяня.— Абірайце сабе месца для жытла. Табе, Заяц, вунь пад той нахіленай бярозкай добра норку зрабіць,— паказала Лісяня ў адзін бок.— А для Вожыка добра вунь там, дзе маладыя ялінкі гуртам растуць,— павярнулася яно ў іншы бок.



— Добрае месца,— сказаў Заяц.

— Прыгожая якая паляна,— пагадзіўся з ім Вожык.— І пад ялінкамі мне зручна будзе. Яны калючыя, і я калючы. Далёка вось толькі адзін ад аднаго… Мы яшчэ не прызвычаіліся…

— А ў нас тут няма чаго баяцца,— супакоіла Лісяня Вожыка.— Затое ў госці будзе хадзіць цікавей сябру да сябра!

Заяц і Вожык разышліся — можа, нават і з нейкай палёгкай, бо ім не вельмі зручна стала раптам глядзець адзін аднаму адкрыта ў вочы.

Толькі паспеў Заяц добра агледзецца — дзе б зрабіць сабе норку, як пабачыў Лісяня.

— Так, нядрэннае месца.— Ківала яно, гледзячы, дзе Заяц азначыў сабе капаць норку.— Толькі Вожык сабе лепшае месца абраў.

— А як жа ён абіраў, калі я першы сюды згадзіўся? — здзівіўся Заяц.

— Абіраць — гэта ж не толькі першым быць, але і даць іншаму першаму ўзяць абы-што.

— Чаго тут «абы-што»? — пакрыўдзіўся Заяц.— Мне даспадобы…

— Ну, добра-добра… Гэткі ты даверлівы, Заяц.— І Лісяня пабегла.

Вожык знайшоў сабе месца для хаткі пад ялінкай хутка. Ён стаў збіраць лісце, калі да яго прыбегла Лісяня.

— Як справы, калючы?

— Вось будую,— адсопся Вожык.

— Так, не пашанцавала табе… Месца тут змрочнае, бывае, што і сыра. Вось у Зайца — з самога ўзыходу сонца светла. Лепшае месца сабе Заяц абраў.

— Мне і тут добра будзе,— заўпарціўся Вожык.— Я не зайздрошчу.

— Ды зайздросціць не трэба, а вось запомніць варта, як спрытна Заяц месца лепшае сабе забраў... — І Лісяня пабегла.

А Вожык склаў пад ялінкай сухое лісце і прысеў побач. Яму стала надта няўтульна. Здавалася, усё было добра: і паляну яны знайшлі, і месца на ёй шмат, і сонца, і ягады... Але чаму ж так сумна?





## 6. Час верыць

Заяц таксама нічога не рабіў. Ён сядзеў ля таго месца, дзе пачаў было капаць норку, і пра нешта думаў. Ужо і змрок стаў згушчацца. Яму стала вельмі журботна. Урэшце ён падняўся і пайшоў да маладога ельніку.

На палове шляху Заяц сустрэў Вожыка.

— А я да цябе іду,— проста сказаў Заяц.— Не ўмею я доўга крыўдаваць. І сумна зусім. Парася бегла, сказала, што нікому верыць не трэба, так усе тут жывуць. Хто лепей за ўсіх абдурвае — таму і лепей. А потым Вавёрка спусцілася, паведаміла, што Парася — манюка і ашуканец. І толькі яна сумленная на гэтай паляне. Чаму яны такія?

— Я не ведаю... — уздыхнуў Вожык.— Я таксама да цябе іду. Да мяне Барсучаня прыходзіла, і Вялікая Мыш... Яны мне таксама сябраваць прапаноўвалі, і вось гэтаксама пра іншых казалі,

як і Парася, і Вавёрка... А навошта падманваць?.. Не Сонечная гэта паляна, хоць тут і сонца свеціць, і кветак шмат, і ягад... Я вось падумаў, мы з табой з-за ягад пасварыліся і забыліся, для каго паляну шукалі, навошта лесам блукаем...

— А... мне Лісяня казала, што ты больш за мяне ягад знайшоў і без мяне іх з'еў... І што месца ты лепшае абраў,— асцярожна прамовіў Заяц.

— А мне Лісяня сказала, што ты адумысна, калі знаходзіў цотны лік ягад, адну з'ядаў, каб я ў цябе ў даўжніках заставаўся,— усміхнуўся Вожык.— І гэта ты месца лепшае абраў.

— Вось яно што... А мы адзін на аднаго думаць пачалі...— усміхнуўся і Заяц і вельмі ціха, саромячыся крыху, дадаў: — Ты прабач мне, што я пра цябе дрэнна падумаў.

— І ты мне прабач,— з палёгкай выдыхнуў Вожык.— Я таксама Лісяняці амаль паверыў і падумаў, што ты мяне абдурыць можаш. Надалей заўсёды, калі раптам засумняемся, будзем усё адзін у аднаго пытаць.

— Мы будзем пра ўсё наўпрост пытаць адзін аднаго! — як клятву, вымавіў Заяц і паціснуў працягнутую лапу сябра.

— А зараз пойдзем разам пад ялінкі, там я лісця назбіраў, будзе мякка спаць,— прапанаваў Вожык.

— А раніцай? — спытаў Заяц.

— Назад пойдзем,— прапанаваў Вожык.— Не Сонечная гэтая паляна, зусім не такая, пра якую казаў дзядуля Крумкач...

Раніцай, з першымі промнямі сонца Вожык і Заяц сыходзілі з паляны. Яна яшчэ была пустая, зіхацела пад сонцам кропелькамі расы на кветках і траве. Ах, якой прыгожай яна была! І як не хацелася яе пакідаць...

Знаёмая сцяжынка вяла іх назад, да іх Яліны. Колькі крокаў ступілі, як проста перад імі апынуўся кусцік суніц. А на ім — тры сакавітыя, вялікія-вялікія, чырвоныя, духмяныя ягады!





— Ізноў тры ягады ў нас на шляху,— задумаўся Вожык.— Цяпер ты, Заяц, еш дзве ягады, а я — адну.

— Не буду болей за цябе ягад есці,— адмовіўся Заяц.

— А як жа нам тады падзяліць тры на два?

— Не ведаю...

— І я не ведаю. Вось калі б з намі хто трэці быў... — уздыхнуў Вожык.

— Ура! Прыдумаў! — крыкнуў радасна Заяц.— Трэці потым прыйдзе.

— Дзе? Калі? — не зразумеў Вожык.

— Ды ўсё ж проста! Мы з'ямо па адной ягадзе, а адну пакінем! Хай яшчэ нехта ёй паласуецца!

— І праўда,— усцешыўся Вожык.— Зусім у мяне думкі блытаюцца, калі перад сабой салодкае і смачнае бачу! Малайчына, Заяц!



Сябры сарвалі дзве ягады, з'елі — а адна засталася на галінцы. Яны адыходзілі ад гэтага кусціка суніц радасныя, што так проста, як высветлілася, знайсці выйсце: усяго трэба было падумаць пра тых, хто ідзе за табой...

Праз некаторы час ім на шляху трапіўся яшчэ адзін кусцік — і гэтым разам на ім было тры сунічкі.

— Ну вось,— засоп Вожык.— Выходзіць, дарма мы там ягаду пакінулі. Цяпер бы акурат і выйшла пароўну. Можа, сарвем усе і з'ямо не пароўну, а наперадзе яшчэ кусцік трапіцца?

— Ну не,— заўпарціўся Заяц.— Я табе раней казаў — не простыя...

Не паспеў Заяц дагаварыць, як заварушыліся кусты ля сцяжынкі, і перад сябрамі з'явілася іх знаёмае Лісяня.

— Самыя звычайныя гэта ягады! Дурныя вы! — засмяялася яно.

— Гэта чаму мы дурныя? — падняў калючкі Вожык.

— Бо пакідаеце тое, што можаце самі ўзяць! Вось узялі б тыя ягады ўсе, тут гэты кусцік знайшоўся — ізноў усе ўзялі, і ўрэшце ўсё б падзялілася! — засмяялася Лісяня.— Бярыце хоць цяпер усё, наперадзе яшчэ шмат суніц будзе!

— Ну не,— падумаўшы хвіліну, адказаў Вожык.— Не будзе па-твойму.

— А як будзе?

— А мы ізноў па адной ягадзе возьмем! — цвёрда сказаў Вожык.

— А трэцяя? А трэцяя каму? — не адставала Лісяня.

— А трэцюю... а трэцюю мы табе дамо! — пераможна выклікнуў Вожык.

— Мне? — аж прысела ад нечаканасці Лісяня.— Але гэта ж вы кусцік суніц знайшлі. Значыцца, гэта вашыя ягады.

— Ну і што? — усміхнуўся Вожык.— Мы цябе частуем! Так, Заяц?

— Так! — весела адказаў Заяц, сарваў ягады, адну працягну Вожыку, адну Лісяняці, а трэцюю стаў есці сам.— Вось і ўся праблема!

— Як гэта так? — разгублена спытала Лісяня, трымаючы ў руках вялікую сакавітую ягаду.— Гэта ж не мая...

— Але ж мы цябе частуем! — засмяяліся сябры.— Вучыся і ты частаваць — тады будзе вельмі проста дзяліць усё справядліва!

І Заяц з Вожыкам, узяўшыся за лапы, пайшлі наперад, пакінуўшы разгубленае Лісяня з ягадай пасярод сцяжынкі.



Зваротная дарога была доўгай-доўгай. Неўзабаве на неба напаўзлі хмары, стаў церусіць дождж. Згубілася сцяжынка ў траве, сябры заблукалі. Цэлы дзень яны, галодныя, прамоклыя, хадзілі незнаёмым лесам.

Сябры ўжо амаль страцілі надзею дайсці да Яліны да таго часу, пакуль не стане цёмна, калі Яліна паўстала наперадзе — магутная, такая знаёмая ім, якая стала крышку роднай. Яны з палёгкай забраліся пад густыя лапы.

— Ты чуеш, Заяц, як спявае Яліна? — ціха запытаў Вожык у сябра.

— Чую,— шэптам адказаў Заяц.— Толькі мне цяпер стала дужа сумна ад гэтай песні. Нібыта ў мяне было раней нешта такое добрае-добрае, вельмі важнае, а я яго страціў.

— І мне,— прызнаўся Вожык.— Нават плакаць хочацца...





## 7. Моцны слабаму не таварыш?

Раніца наступіла — волкая і хмурная. Вожык і Заяц так прызвычаіліся да моху пад старой Ялінай, што яна ў гэтую раніцу падалася ім сваёй хаткай. Яны абышлі Яліну далей і пабачылі яшчэ адну сцяжынку. Адразу ў ейным пачатку крыху збоку біла з зямлі крыніца і бег ручай у глухі лес. А далей невялікая паляна была высланая кусцікамі суніц — з самай звычайнай, не надта буйной, але салодкай і сакавітай ягадай.

— Вось гэта, напэўна, і ёсць сцяжынка на сапраўдную Сонечную паляну,— узрушыўся ад пабачанага Заяц.— Нічога дзіўнага, і сцяжынка няроўная, і без тых сакавітых ягад...

Тым часам дождж імжыў і імжыў — сумны і надакучлівы. Было няўтульна і холадна. Лес вакол быў звыклы: вельмі нават падобны да іх роднага ляска, вось толькі і тут Вожык, які ва ўсім сумняваўся, угледзеў для сябе адно дзівацтва і падзяліўся ім з сябрам:



— Лес нейкі дужа чысты... Глядзі, ні кустоў маладых, ні дрэўцаў малых... Адно дрэвы стаяць усе рослыя, моцныя...

— Ды ну цябе,— адмахнуўся Заяц.— Вечна ты ўсяго напрыдумляеш.

І тут цуд — мінулі яны яшчэ колькі метраў і ў баку ад сцяжынкі раптам зайграла белым і зялёным з чырвонымі кропкамі ягад сунічная паляна. А трохі далей па ледзь чутным цурчанні знайшлі яны чысты ручай. З задавальненнем паелі ягад, папілі чыстай вады. А тут і дождж перастаў, і неба стала святлець.

— Можа, блізка цяпер паляна? — з надзеяй уголас памарыў Заяц.— Хай бы яна была самай простай палянай...



— Можа, і блізка, можа, і будзе… — прабурчаў Вожык.— Не даспадобы мне…

— Усё табе не падабаецца, калі ягад мала,— са смехам папракнуў Заяц Вожыка.— Хадзем…

А сцяжынцы нібы не было канца. Яна ўсё бегла і бегла скрозь нейкі вельмі правільны лес: тут усе дрэвы выглядалі амаль аднолькавымі паводле вышыні і таўшчыні. Калі сябры стамляліся так моцна, што, здавалася, вось-вось зваляцца, раптам ізноў перад імі апыналася сунічная паляна і ручай з халоднай чыстай вадой. Тут сонца цалкам вызірнула з-за хмар, і адначасна перад разгубленымі ад нечаканасці сябрамі адкрылася прасторная, залітая ўся залатым сонечным святлом паляна.

— Мы дайшлі, Вожык! Мы знайшлі паляну! Глядзі, тут няма ніякай агароджы! Тут усё гэтаксама, як і на любой іншай лясной паляне.

— Ага, усё звычайнае,— адказаў без радасці Вожык.— Вунь і гаспадары паляны нас сустракаюць… як звычайна…

Насамрэч насустрач Зайцу і Вожыку з паляны выйшлі Медзведзяня, Ваўчок і Янот.



— Дабрыдзень! — паспяшаўся прывітацца з імі Заяц.— Нашу родную паляну вось ужо колькі месяцаў запар залівае дождж. Мы шукаем у лесе Сонечную паляну.

— Мы ўжо некалькі дзён шукаем,— дадаў Вожык.— Можа, вы прымеце нас і нашых сяброў — тых, хто застаўся там і чакае нас з добрымі весткамі…



— Вядома,— кіўнуў Ваўчок.

— Нам заўсёды цікава, калі хтосьці да нас прыходзіць,— сказала і Медзведзяня.— А з кім з нас вы будзеце біцца?

— Навошта біцца? — разгубіўся Заяц.

— Каб пазнаць, хто за каго мацнейшы і потым займаць сваё месца на нашай паляне,— цвёрда сказаў Янот.— Такое правіла.

— Як жа адразу біцца? — здзівіўся Вожык.— Можна проста дужацца, калі ў вас такія правілы.



— Адразу біцца — гэта і ёсць адно правіла,— патлумачыў Ваўчок.— А дужацца ў нас не прынята — у нас ніякіх правілаў больш няма.

— Калі вы біцца не жадаеце, я вам адразу месцы дам,— загаварыла Медзведзяня.— Ты, Заяц, пойдзеш да мяне ў сакратары. Ты хутка бегаеш, вось і будзеш у мяне прыглядаць за ўсімі. Я табе дам асадку і сшытак: занатоўваць, хто правініўся...

— А я Вожыка да сябе вазьму,— заспяшаўся Ваўчок.— Ён калючы, добра ягады ахоўваць будзе. Замест калючай агароджы.

— Не буду я калючай агароджай! — засоп Вожык.— І Заяц паслугачом не будзе бегаць. Мы — вольныя звяры...

— Ну, значыцца, біцца! — падвёў рысу Янот.— Хадзем усе на паляну.

І ўсе пайшлі на цэнтр паляны, ведучы з сабой Зайца і Вожыка. А на самой паляне колам ужо сабралася мноства самых розных звяроў.

— Ціха ўсім! — закрычаў гучна Янот.— Да нас прыйшлі Заяц і Вожык. Яны хочуць жыць з намі на нашай паляне. У нас



адно правіла: кожны сваё месца ў бойцы атрымлівае, і хто каго пераможа, той і ягонае жытло займае. Заяц і Вожык, глядзіце: вы можаце біцца, пачынаючы або з найслабейшых, або з наймацнейшых. Медзведзяня ўсіх у бойцы перамагло — хто яго адолее, той яго месца зойме. Потым Ваўчок. Потым Барсук, потым я і далей усе астатнія. Хто з вас першы біцца будзе і з кім?

Заяц і Вожык маўчалі, аглушаныя пачутым.

— Ну, чаго маўчыце? Хто першы пачынае? — усё прыспешваў Янот.

— Не будзем мы біцца! — упарта сказаў Вожык.

— Як гэта не будзеце? — здзівіўся Янот.— Усё, вы на нашай паляне, у нас — адно правіла: біцца!

— Адно, кажаце, правіла? — раптам хітра прымружыўся Вожык.— А рэшта без правіл?

— А рэшта без правіл,— зарагатала Медзведзяня.— Дазволена!

— Калі так, мы з табой, Медзведзяня, біцца будзем!



— Ты — са мной? Вой, трымайце мяне!

— Не я з табой — а мы з табой! — тупнуў Вожык па зямлі.— Мы ўдвух з Зайцам зараз з табой біцца будзем!

На паляне наступіла замяшанне. Янот разгублена круціў галавой па баках, пазіраючы то на Ваўчка, то на Медзведзяня.

— Нельга двое на аднаго...

— Не хлусі, паласаты! — выгукнуў Вожык.— Хто сказаў, што правіла

толькі адно — хто перамог, той і галоўны? Ты сказаў. А мы ўдвух з Зайцам — сябры! Мы ёсць той самы адзін «хто». Ну, дык бараніся!

Медзведзяня разгубілася. З адным Зайцам яно б управілася без праблемы, ды і з Вожыкам таксама. Але іх двое будзе...

— Ну што, Медзведзяня, выходзь у цэнтр,— пачаў клікаць Вожык.

— Правальвайце лепей, куды ішлі! — загыркала Медзведзяня.— Мы вас не прымаем. Ідзіце, куды ішлі!

— Ну і пойдзем,— ані не засмуціўся Вожык, якому хоць і было страшнавата, але з Зайцам ён пачуваў сябе спакайней.

А потым ён звярнуўся да звяроў, што абступалі вакол паляну:

— Гэй, звяры, само Медзведзяня сказала, што на паляне адно правіла: хто перамог, той і мацней. А гэта значыць, што



не адной Вавёрцы супраць яго можна ісці, а ўсім адразу! Калі вы ўсе разам станеце адным — хай тады паб'юцца Медзведзяня і Ваўчок!

— Калі хто жадае з намі ісці — хадзем,— дадаў Заяц.— Мы шукаем сапраўдную Сонечную паляну: на якой не бывае боек і ніхто там нікім не кіруе, дзе не бывае хітрасці і зману, дзе кожны можа пабудаваць сабе асобную хатку і рабіць тое, што яму падабаецца — галоўнае, каб не рабіць дрэнна іншым. Хто з намі?

Але ніхто са звяроў не адклікаўся.

— Хадзем, Заяц,— нявесела паклікаў Вожык.— Ізноў мы памыліліся...

Іх праводзілі самымі рознымі поглядамі: хто са страхам, хто са шкадаваннем, хто з абыякавасцю. Але заўважылі сябры, што былі сярод усіх і позіркі захаплення.





## 8. Цяжкае вяртанне

Толькі да вечара, калі стала хутка цямнець, Вожык і Заяц, вымаклыя пад дажджом, дабраліся да Яліны. Вох, як сумна і тужліва было ў іх на душы!

— Можа, і няма такой казачнай паляны,— думаў уголас Заяц.— Крумкачу што — ён высока лётае, яму і такая паляна, дзе сёння мы былі, здасца згары самай Сонечнай. А вось калі долу спусціцца...

Сябры прыціхлі, прыслухаліся — ізноў меладычна шумелі над імі галіны Яліны. Вожык напружана моршчыў лоб і раптам ускочыў, радасны і ўзбуджаны:

— Я ўспомніў! Я ўспомніў, што за мелодыю цяпер чую! — І ён нягучна праспяваў:

*Над нашай палянай ноч наступіла.*
*Спі, мой сыночак, калючык мой мілы...—*



І яшчэ цішэй, расчулены, дадаў:

— Гэтую песеньку мне мама спявала, калі я быў зусім маленькі...

— Не можа быць,— агаломшана прамовіў Заяц.— Я чую іншую песню... Я ўспомніў, мамчына песня, вось:

*Зоркі над нашай палянай гараць,*
*Зайчыкам мілым яны кажуць спаць...*

Сябры са здзіўленнем глядзелі адзін на аднаго.

— Гэтая Яліна нам спявае тыя песні, якія нам спявалі нашыя мамы. Табе — песню тваёй мамы, а мне — маёй,— сказаў Вожык.

— Але навошта? — здзівіўся Заяц.

— Мусіць, Яліна жадае, каб мы ўзгадалі пра сваіх мам...



— І пра сваю паляну,— дадаў Заяц.

— Страшна, мусіць, у нас цяпер дома,— стаў разважаць Вожык. — Ручай яшчэ больш выйшаў з берагоў... І есці там няма чаго...

— А мы тут ягады свежыя, сакавітыя, штодзень ямо, спім у цёплым моху,— услед яму казаў Заяц.— Можа, там, на нашай паляне, некаму дапамога патрэбная. У Аленіхі павінна было Аленяня нарадзіцца, а раптам ейную ляжанку вадой заліло?



— І Крумкача мы аднаго пакінулі... А дупло ўжо працякаць пачало...

Вожык і Заяц успаміналі сваіх сяброў, знаёмых, якіх пакінулі на паляне і адчувалі сябе вінаватымі. І нібыта няма ніякай віны ў Зайца і Вожыка, што не знайшлі яны нічога... Але вось цяпер яны ў цеплыні — а як там іх сябры? Бо нездарма ж старая Яліна напявала ім штоноч калыханкі іх маці, калыханкі, у якіх была іхняя паляна, іхні родны дом...

— Нам вяртацца трэба,— выказаў Вожык уголас тую думку, што авалодала абодвума.— Варта нешта іншае прыдумляць, а не шукаць шчасце ў цёмным лесе.



— Трэба вяртацца,— пераканаўча сказаў і Заяц.— А як некаму дапамога нашая патрэбная? Раптам мудры Крумкач нешта прыдумаў?

...Сябры заснулі, супакоеныя тым, што рашэнне прынятае: яны заўтра раніцай пойдуць назад — на сваю, змоклую наскрозь, залітую раўчуком паляну. Мажліва, стары Крумкач нешта прыдумаў, знайшоў адказ...

Яшчэ толькі развіднела ў лесе, а Вожык і Заяц ужо не спалі — ім не цярпелася адправіцца ў шлях.

Знянацку абодвум ім стала здавацца, што на іх паляне здарылася нешта надзвычай важнае: можа быць, некаму вельмі патрэбная іх дапамога, магчыма, з іх палянай здарылася няшчасце. Яны ўрэшце ўсвядомілі, наколькі ім дарагая іх уласная паляна... Так, няхай мокрая, няхай з пахмурным небам — але яна свая... Там усё знаёмае, там усё зразумела і проста, там такія шчырыя сябры, там усе жывуць паводле самага простага і справядлівага закона ўсіх жывых: жыві з суседам так, як бы ты жадаў, каб сусед жыў з табой...

З нецярпеннем сябры сталі абыходзіць велізарны камель Яліны... Вось тая сцяжынка, што вывела іх учора на паляну, дзе кіруе сіла,





вось гэтай дарожкаю яны патрапілі на паляну хітрасці, вось тая самая сцяжынка роўнасці і аднолькавасці...

Але дзе ж іх сцяжынка дахаты? Не можа быць!

Пачатак сцяжынкі ледзь угадваўся перад імі — а далей усё густа-густа зарасло. Лес наперадзе стаяў пануры, жудасна чарнелі мёртвыя дрэвы, вільготна блішчэлі камлі.

— Нібыта шмат-шмат гадоў мінула,— заклапочана прагаварыў Вожык.— А ўсяго ж некалькі дзён прайшло... Трэба ісці.

Яны адважна ступілі ад Яліны ў глыб лесу, рассунуўшы густыя зараснікі. І, відаць, менавіта тое, што дарога дадому выглядала надзвычай цяжкай, яшчэ больш надало ім упэўненасці, што на сваю родную паляну яны павінны вярнуцца абавязкова!

Чаму? Ды хто яго ведае. І толькі Заяц выказаў здагадку:

— Мусіць, гэта правільна, калі да добрага дома вядзе вельмі цяжкая дарога. Калі ісці нам было надта лёгка і проста, мы зусім не туды прыходзілі.

— Відаць, так і ёсць,— адказаў Вожык.— Не бывае простых і роўных дарог да ўтульнага дома...

То пякучая крапіва, то дзядоўнік калючы, то непралазны малiннiк паўставалі ў іх на шляху. Яны перабіраліся праз адно ўпалае дрэва — і траплялі ў гразкае балотца з асакой, такой вострай, што да крыві рэзала лапы. Але Вожык і Заяц упарта, падпарадкоўваючыся нейкаму ўнутранаму клічу, ішлі і ішлі — усё наўпрост і наўпрост. І чым больш перашкод станавілася на іх шляху, тым больш было ўпэўненасці ў іх маленькіх сэрцах: яны ідуць слушна, іхняя паляна кліча да сабе, яна дапаможа ім здалёку не зваліцца ад бяссілля, не звярнуць назад...

А над галовамі сяброў мацней зашумелі кронамі дрэвы. Мокрая завісь, што да гэтага густой смугой вісела ў паветры, пацяжэла, сабралася ў кроплі — і пайшоў дождж. Напачатку

дробны, потым кроплі станавіліся ўсё буйнейшымі і ўжо балюча хвасталі па галовах і спінах. Вецер зашумеў яшчэ мацней, пагрозліва разгойдваліся старыя дрэвы, раптам дзесьці ўбаку чуўся трэск — падала з шумным уздыхам дрэва. І ўсё часцей перад сябрамі на іх шляху паўставалі велізарныя сукаватыя вываратні, праз якія так цяжка было перабірацца... Здавалася, сіл не засталося зусім. Змоклыя наскрозь, змерзлыя і вельмі пастомленыя ішлі Заяц і Вожык ледзь бачнай сцяжынкаю — ішлі да сябе дадому.

Наперадзе пачало святлець — гэта надало вандроўнікам моцы. Паляна, іх паляна была ўжо зусім блізка, яны адчувалі гэта.

І яна адкрылася перад імі...



Якой бездапаможнай і сумнай яна была!

Ужо амаль напалову затопленая вадой ручая, які так моцна разліўся, уся працятая дажджом наскрозь, пустэльная, шэра-зялёная без адзінай кветкі на ёй... Усё гэтак жа церусіў дождж...

Але, нягледзячы на гэты выгляд, сэрцы сяброў напоўніліся радасцю — як выдатна зноў апынуцца дома! Хай гэты дом пакуль і не найлепшы...

Праз калюгі, вязнучы ў мокрай траве, сябры дабраліся да таго самага пня з дуплом, адкуль некалькі дзён таму яны пачалі свой шлях — да хаткі Вожыка.





## 9. Калі разам...

У дупле, якое цяпер працякала ў некалькіх месцах, сядзеў іх знаёмы — стары мудры Крумкач.

— Мы вярнуліся, дзядуля Крумкач,— сказаў Вожык замест прывітання.— Але няма ў нас добрых вестак.

— Мы не знайшлі тую паляну, пра якую вы казалі,— стаў вінавата апавядаць Заяц.— Мы бачылі розныя паляны. На іх свеціць сонца, там растуць ягады і грыбы, там шмат кветак і месца стае ўсім. Але мы не змаглі там застацца і мы не можам паклікаць усіх туды.

— Дабрыдзень, сябры мае,— з лагоднай усмешкай павітаўся Крумкач.— Што ж, так, мусіць, і павінна быць. Нам заўсёды падаецца, што лепей за ўсё там, дзе нас няма. Няўжо так дрэнна было там? Бо ў нас сапраўдная бяда — глядзіце, неўзабаве ад нашай паляны амаль нічога не застанецца.



— Там, дзе мы былі, усё не так, як у нас. Не так, як вы вучылі нас жыць: каб усім было добра, каб ніхто нікога не крыўдзіў... Мы спадзяваліся, што вы нешта прыдумалі, што знайшлі адказ на пытанне: як зрабіць нашу паляну ізноў сонечнай — бо перад нашым адыходам вы збіраліся падумаць,— нагадаў Вожык, а Заяц дадаў:

— А яшчэ мы падумалі, што, можа, тут камусьці патрэбная наша дапамога...

— Мусіць, вы зрабілі слушны выбар,— адказаў Крумкач.— Час пакажа... А цяпер — бяжыце да старога дуба, паклічце майго сябра Пугача...

— Што ты бачыў, Крумкач? — адразу запытаў Пугач, калі зайшоў у дупло, і Заяц з Вожыкам зразумелі, што яшчэ раней гэтыя дзве разумныя птушкі пра нешта дамаўляліся паміж сабой.

— Уніз па плыні нашага ручая шмат паваленых дрэў. Густая смуга вісіць над гэтым месцам. Смуга падымаецца ўгару, збіраецца хмарай, а потым вецер нясе яе на нашую паляну.

— Што ж, атрымліваецца, той дзень не мінуў бясследна для нашай паляны,— задумліва сказаў Пугач.— Калісьці даўно над нашым лесам пранеслася моцная бура. Шмат дрэў звалілася тады. Відаць, і ўпоперак ручая. Сукі іх гнілі і ападалі ў ваду...



І там утварылася гаць — ручаю няма куды стала цячы. Разлілося возера, якое стала забалочвацца. У сонечныя дні пара з яго падымалася высока ўгару і падала ўжо дажджом, ізноў сілкуючы ручай. Чым болей праходзіла дзён, тым болей разліваўся ручай, тым болей смугі вісела над балотцам, тым болей станавілася і само балота... Такая мая думка. Што скажаш, Крумкач?

— Так і ёсць,— згадзіўся Крумкач.— Што ж, сябры мае, цяпер мы з сябрам Пугачом пачнем складаць план. А вы абыдзіце ўсіх звяроў на паляне. Клічце ўсіх. Мы будзем самі ратаваць сваю паляну.

— Праўда? Значыцца, мы зможам самі прагнаць дажджавыя хмары? Мы зможам ачысціць неба? Мы зможам спыніць дождж? — закрычалі Заяц і Вожык.

— Так, мае юныя сябры!— усміхнуўся ў адказ Крумкач.— У нас усё атрымаецца. Але нам трэба зрабіць вельмі шмат. Мы мусім пабудаваць дарогу да той гаці ўніз па плыні ручая. А потым мы павінныя даць магчымасць ручаю цячы так, як ён цёк раней. Нам трэба зваліць мёртвыя дрэвы ў лесе ля таго месца... нам трэба яшчэ шмат зрабіць. І тады вада сыдзе з нашай паляны. І сыдуць дажджавыя хмары. І прыйдзе сонца.

— Ура!!! — загарлалі ў адзін голас Вожык і Заяц.— Наша паляна стане самай сонечнай!

Яны выбеглі з дупла і пабеглі ад хаткі да хаткі.

— Выходзьце ўсе! Выходзьце! Мы можам самі выратаваць сваю паляну! Мы можам самі, усе разам, вярнуць да нас сонца! Мы можам зрабіць сваю паляну самай сонечнай, самай прыгожай, самай лепшай палянай на свеце! Так кажуць мудры Крумкач і разумны Пугач! Выходзьце ўсе! Мы зможам, калі мы будзем разам!

Даўно гэтая паляна не чула такіх гучных галасоў, і звяры, здзіўленыя, выходзілі з сваіх хатак. Вестка пра тое, што яны





самі — самі! — могуць спыніць дождж, імгненна разляцелася па ўсёй вялікай паляне. Звяры верылі і не верылі, але ўсе спяшаліся да хаткі Вожыка: там, на версе старога пня сядзелі Крумкач і Пугач.

— Нашы юныя сябры, Заяц і Вожык, за гэтыя дні шмат блукалі дрымучым лесам,— загаварыў Крумкач.— Яны бачылі шмат светлых палян, але яны вярнуліся сюды: нідзе для нас не будзе лепшага месца чым тое, дзе мы ўсе нарадзіліся, дзе жылі нашыя дзяды і бацькі. І не можам мы проста сысці і пакінуць наш дом. Цяпер мы з Пугачом апавядзем наш план. Нас усіх чакае шмат працы. Будзе цяжка, дапамога кожнага вельмі патрэбная... Слухайце...

Усім знайшлася праца: вепрукі і малыя парасяты нарывалі пясок і капалі новае рэчышча для ручая, зайцы і вавёркі насілі пясок для дарогі да гаці, маленькія мышы ўсёй вялікай сям'ёй шукалі ягады і грыбы для полудня працаўнікам, які рыхтавалі цёткі Барсучыха і Аленіха. Магутныя ласі і бабры ўзяліся расчышчаць гаць, сям'я мядзведзяў пайшла валіць старыя дрэвы... Усе-ўсе былі занятыя, ніхто не сядзеў у сваёй хатцы, нягледзячы на тое, што дождж не сціхаў ні на хвіліну.

Цэлы дзень кіпела праца, і звяры разыходзіліся па сваіх хатках, стомленыя, але задаволеныя — усе пабачылі, як шмат удалося зрабіць, усе паверылі, што ў іх атрымаецца. Калі яны будуць разам.

Але яшчэ не адзін дзень мінуў, перш чым была расчышчаная гаць на Ціхім ручаі — і вада пачала сыходзіць з паляны новым рэчышчам. Яшчэ прыбіралі ў лесе старыя дрэвы, даючы прастору ветру над іх палянай, расчышчалі ад бруду і глею залітыя раней хаткі і норы...

...У тую раніцу Вожык прачнуўся раней звычайнага — яго абудзіла цішыня. Ён ніяк не мог зразумець — чаго нестае? Тут і Заяц расплюшчыў вочы.







— Заяц, ты чуеш — ціха зусім,— спытаў Вожык.

— Ага,— адказаў Заяц.— Не чуваць, як дождж шамаціць...

Яны са здзіўленнем прыслухоўваліся да новых гукаў гэтай раніцы: дзесьці ў лесе нясмела падала голас нейкая птушачка, ёй адказала іншая. А потым раптам усё дупло напоўнілася басавітым гудзеннем — гэта чмель праз адчыненае акенца заляцеў у хатку Вожыка!

Вожык асцярожна ўстаў, крадком, каб не напужаць чмяля, падышоў да дзвярэй і расхінуў іх. Чмель адразу вылецеў.

А за ім выбеглі з хаткі Заяц і Вожык.

Дажджу не было. Над галовамі сяброў ззяла вымытае, чыстае-чыстае блакітнае неба. А над верхавінамі дрэў узыходзіла сонца, і першыя прамяні яго падалі на куст, што рос над хаткай Вожыка.

— Сонца... — прашаптаў захоплена Вожык.

— Дабрыдзень, Сонца! — закрычаў, падскокваючы, Заяц.

— Дабрыдзень, Сонца! — адклікалася рэхам з усіх куткоў паляны.

Гэта выходзілі са сваіх хатак Янот і Барсук, цёткі Барсучыха і Аленіха, лісяняты і медзведзяняты, мышаняты і ваўчаняты, бабры і парасяты — усе-ўсе жыхары паляны.

Яны ўсе сустракалі Сонца.







## Змест





